Сучасныя пісьменнікі — дзецям

Анатоль ЗЭКАЎ

# Лічба з літарай сябруюць



Сучасныя пісьменнікі — дзецям

Анатоль ЗЭКАЎ

# Лічба з літарай сябруюць



ПРАВІЛьныя вершы, загадкі-задачкі

Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2016

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-5
З-97

Серыя заснавана ў 2015 годзе

Мастак Рыма Кульба

*Для дзяцей малодшага школьнага ўзросту*

**Зэкаў, А.М.**

З-97 Лічба з літарай сябруюць : ПРАВІЛьныя вершы, загадкі-задачкі : для мал. шк. ўзросту / А.М. Зэкаў ; маст. Р.В. Кульба. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя Петруся Броўкі, 2016. — 48 с. : іл. — (Сучасныя пісьменнікі — дзецям).

ISBN 978-985-11-0944-5.

Новая кніга «Лічба з літарай сябруюць» Анатоля Зэкава складаецца з двух раздзелаў. Першы называецца «Удвух, удзвюх, удваіх» і прысвечаны нашай роднай беларускай мове. У ім змешчаны ПРАВІЛьныя вершы. А чаму яны «ПРАВІЛьныя»? Ды таму, што пераважная большасць паэтычных твораў — гэта насамрэч правілы са школьных падручнікаў у зарыфмаванай форме, што, безумоўна, дапаможа вучням лепш авалодаць імі. Другі раздзел «Колькі ножак у сараканожак?» — для юных матэматыкаў, якія могуць праверыць свае веды ў адгадванні загадак-задачак.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-11-0944-5**



# Скарынава слова

Скарынавай душою
узлашчанае слова
крыляла над мяжою,
бруілася вяснова.

З ім сеялі і жалі,
грыбы збіралі ў лесе.
Яно — у песнях жалю,
яно — ў жартоўных песнях.

У ім — і плач хаўтурны,
у ім — і шэпт таемны,
у ім — і гнеў, і буры
пажарышчаў ваенных.

Ўзлятала над планетай
і клікала дадому...
Не знішчыць слова гэта,
не вытруціць нікому.

З Радзімаю адзінай
жыве яно асновай.
Пакуль жыве Радзіма —
датуль жыве і слова.

*Цяжкавата правілы вучыць?*
*Ў гэтым вы не першыя!*
*Паспрабую вам дапамагчы*
*ПРАВІЛьнымі вершамі.*

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА




Засвоіла выдатна Маша,
Калі чытала кніжку:
На мове беларускай нашай —
Як чуем,
Так і пішам.

І ведае цяпер малая:
На мове нашай роднай
І **«о»**, і **«ё»** мы вымаўляем
Пад націскам заўсёды.

Зусім не трэба **«оло»**, **«оро»**
Запамінаць больш Машы,
Бо словы «м**ала**ко», «к**аро**ва»,
Як пішам,
Так і кажам.

Са школы прыйдзе вучаніца
І брацiку раскажа:
О як жа хораша вучыцца
На мове роднай нашай!





# РУСКІЯ І БЕЛАРУСЫ

Ваш **язык** і наша **мова,**
**Слоўнік** наш і ваш **словарь,**
У аснове ўсюды — слова,
Найвышэйшы боскі дар.




Мы завемся — беларусы,
Вас жа — рускімі завуць,
І адольваць звеку мусім
Мы — свой **шлях,**
А вы — свой **путь.**




**Межаў** і **границ** нібыта
І няма ў нас, ды штодзень
Справа — **рожь,**
А злева — **жыта,**
**Бэз** — у нас,
А ў вас — **сирень.**

— **Канюшына** — гэта **клевер,** —
Паўтараем, як урок.
Наша **поўнач** —
Вам як **север,**
Наш **усход** —
Для вас **восток.**




**Утро** з **ранкам** дзень прывецяць.
**Поўня** ў нас,
Ці ў вас **луна,**
На адной жывём планеце —
І на ўсіх яна адна.



# Дзве мовы

Мой тата нарадзіўся ў Курску,
А мама — родам з-пад Гальшанаў.
Гаворыць тата мой па-руску,
На беларускай мове — мама.

Дзве мовы сэрца мне галубяць,
Хоць словы ў іх не супадаюць.
Я з татам апранаю **шубу**,
З матуляй — **футра** апранаю.

**Спадніцу** — **юбкой**, а **сукенку**
Мой тата **платьем** называе.
Надзену **капялюш** — паненкай
Шыкоўна ў **шляпе** выглядаю.

Купляе татачка **носки** мне,
Матуля дорыць мне **шкарпэткі**,
І саграе мяне ў дзень зімні
І **камізэлька**, і **жилетка**.

Бягу да таты я ў **сапожках**,
А ў **боціках** лячу да мамы.
Заўжды ў сапожках цёпла ножкам,
Не сцюжна ў боціках таксама.

Пачнецца дождж — пад **парасонам**
Мы з мамаю ідзём дахаты
І бачым: пад **зонтом** ад дома
Спяшаецца насустрач тата.

Гаворыць тата мой па-руску,
Ды з часам болей прыкмячаю,
Што словы з мовы беларускай
За мною тата паўтарае —
Са мной ён мову вывучае!








# ШТО З ЯКОЙ?



Слоў у слоўніку багата —
Не лянуйся, выбірай:
ШКОЛА, ДОШКА, ВУЧАНЬ, ПАРТА,
ПОЛАЦК, ГОМЕЛЬ, ТУРАЎ, КРАЙ,

ЛЕС, ДНЯПРО, АЛЕСЬ, СВЯТЛАНА,
КАЛІНОЎСКІ, ТАНК, ВЯСНА,
СВІЦЯЗЬ, БЕЛАРУСЬ, ПАЛЯНА,
СЦЯГ, МІКІТА, ЖУК, САСНА,

БАРАДУЛІН, ЗЭДЛІК, БЫКАЎ,
БУДА-КАШАЛЁВА, РОЙ...
Што тут з літары вялікай,
Ну а што пісаць з малой?



# ГЛЯДЗІ Ў КОРАНЬ!

Аніколі вучань Вова
Ў тым не памыляецца,
Што заўжды значэнне слова
Ў корані хаваецца.

А пасля такой затраўкі
Пэўна ведаць варта:
Перад коранем — прыстаўка,
А пасля яго — канчатак.

І для Вовы не загадка
(Падказаць аж рупіць),
Што парой перад канчаткам
Можа быць і суфікс.

Прыклад трэба?
Дык вазьміце
Слова «падрыхтоўка»
І яго вы раскладзіце
Так, як робіць Воўка.







# Зычныя і галосныя

Бываюць гукі розныя.
Ёсць зычныя,
А ёсць галосныя.
Яны — галосныя і зычныя —
Для нас знаёмыя, прывычныя.
А словы скласці каб і сказы,
Патрэбна іх паставіць разам,
Бо ўроссып не было б іх колькі,
Яны ўсё ж гукі — ды і толькі.





# Мяккі знак

Мяккі знак не вымавіш.
Аднак,
Як усё ж ты ні круціся,
Нам без знака гэтага ніяк,
Ну ніяк не абысціся.
Ці сухмен**ь** на вуліцы, ці зол**ь**,
Ці наўсцяж завеі сцюжац**ь**...
Без яго і сол**ь** зусім не сол**ь**,
Бо ўжо цвёрдая задужа.

Вось такі, сябры, дзівак
Гэты просты мяккі знак.



# Е, Ё, Я




Перад націскам у першым складзе
**«Я»** замест **«е»**, **«ё»** выводзіць Надзя.
Піша: лес — л**я**сны, а м**ё**д — м**я**довы...
Вы запомніць правіла гатовы?

Толькі вось чаму, мо скажа хто,
Пішам мы:
П**е**рон, метал, метро?






# СКЛАДОВАЕ І НЕСКЛАДОВАЕ

Бы веды нашы выпрабоўвае
**У** кожны раз,
І так пры тым стараецца:
Пасля галосных **у** складовае
Ў нескладовае ператвараецца.

# У АДЗІНОЧНЫМ І МНОЖНЫМ







Паставіць правільна хацеў
У дзеясловах націск Міша
І зразумеў, калі ўспацеў:
Вы **пі́шаце** — калі ты **пі́шаш**,
А ты **жыве́ш** — вы **жывяце́**.

Ты з націскам будзь асцярожны
І помні, калі ведаць хочаш:
Ён ставіцца і ў ліку множным
На складзе тым, што ў адзіночным.








*мамай, бабуляй*

# Творны склон

Мама з татам і з бабуляю дзядуля.
Толькі як вось кожнага ды ў творным склоне
Праскланяць, і ведала, здаецца, Юля,
А пасля канікулаў ніяк не ўспомніць...

Ёй дапамагчы ўсе вучні ў класе хочуць,
Каб змагла запомніць Юля на «выдатна»:
Мам**ай** і бабул**яй** — калі род жаночы,
А калі мужчынскі — дык дзядул**ем**, тат**ам**.

Каб памылак у дыктанце не рабіць —
Трэба гэта й вам таксама завучыць.



*дзядулем, татам*



рыбак – рыбацкі

# «ЦК» ЦІ «СК»?

Назоўнікі з асноваю на **к**,
А яшчэ на **т**, **ц**, **ч**,
Хоць схаваеш у рукаў,
З іх прыметнікі ўсе з **ц**.

Ў рыба**к**а — улоў рыба**цк**і,
У кра**ўц**а — пашыў краве**цк**і,
Пераходзіць бра**т** у бра**цк**і,
Тка**ч** у тка**цк**і звеку пнецца.

Ведайце ж, дзяўчаты й хлапчукі,
Дзе **ск** пісаць, а дзе — **цк**,
Бо ўсё ж горад гарад**ск**іх
Цісне так, нібы ў цісках.



горад – гарадскі

ткач – ткацкі
брат – брацкі

# ГАЛАВАЛОМКА З СУФІКСАМІ

Калі суфікс **-ва-** ў дзеясловах
Ў цяперашнім часе мы маем,
То ў прошлым часе ў гэтых словах
Нікуды суфікс не знікае.

А ў цяперашнім часе **-ва-** не знаходзім —
То суфікс **-ава-** ў прошлым выводзім.

Вас, пэўна б, я зусім парадаваў,
Калі б і прыклады назваў?
Дык гэта лёгка можна — праўда,
Я прыкладаў не выбіраў:

Адгад**ва**ю — адгад**ва**ў,
Крыўдую — крыўд**ава**ў,
Выгляд**ва**ю — выгляд**ва**ў,
Дарую — дар**ава**ў.



# ЯК ШТО ПІШАЦЦА?



З прыналежнымі прыметнікамі Натка
Разабралася імгненна на занятках:
Тата — тат**аў**,
Дзядзька — дзядзьк**аў**,
Федзя — Федз**еў**;
Мама — мам**ін**,
Цётка — цётч**ын**,
Света — Свец**ін**.

Самі вы цяпер прыметнікі ўтварыце
Ад імёнаў Толя, Жэня, Наста, Зміцер.
Можа, хто яшчэ пры гэтым скажа,
Чаму Сашын ёсць буквар і Сашаў?




# САМЫ ЦІ НЕ САМЫ?

Хоць ты рукой словы гладзь,
Толькі запомні з гэтага верша:
Правільна трэба казаць
**«Самы прыгожы»**
Ці **«найпрыгажэйшы».**

Правіла гэта згадаў,
Каб падказаць табе правільным вершам:
Ты слова **«самы»** не стаў
Перад прыметнікам **«найпрыгажэйшы».**

Верш гэты перачытай —
І адгані ўсе сумненні да грама:
Кожны прыметнік, што з **«най-»,**
Не патрабуе ніякага **«самы».**

# КАГО І КАМУ

Ў займенніках ні мэ, ні бэ
Не кеміць брацік мой Мікіта:
Ён блытае **сябе** й **сабе**,
**Цябе** з **табе** ён блытае.

Люблю я брацiка свайго
І патлумачу так яму:
**Сябе, цябе** — калі **каго,**
**Сабе, табе** — калі **каму.**

**Табе** — калі што хочаш даць,
**Цябе** — калі кагосьці ўважыш.
Гляджу на брата — і бідаць:
Ён хутка правільна ўсё скажа!




# ЛІЧЭБНІКІ ЛІНА СКЛАНЯЛА




Над лічэбнікамі Ліна
Прасядзела дзве гадзіны,
Вывучаючы старанна,
І цяпер не памыляецца,
Што ў лічэбніках складаных
Частка кожная скланяецца.
Вось, напрыклад, прыклад вам:
У давальным склоне
Мы скланяем: **сямістам.**

Правіла запомніш,
Сам затым лічэбнік зможаш
Праскланяць у склоне кожным.

# ПА-БЕЛАРУСКУ І ПА-РУСКУ

Вучыць мову рускую
Глеб і беларускую.




Мовы блізкія, аднак
Глеб на мове беларускай
Словы звязвае не так,
Як звязаў бы іх па-руску.

Усвядоміў добра Глеб,
Што на мове нашай трэба
**Па ваду пайсці, па хлеб,**
А **«не за водой»** і **«хлебом».**

І яшчэ, апроч таго,
Як хто кпіць па-беларуску,
Дык патрэбна **кпіць — з каго,**
А **над кем** — калі па-руску.




З тропу не саб'еш больш Глеба,
Бо вядома ўжо яму,
**Не кого прабачыць** трэба,
Як па-руску, а **каму.**

Тое ж з дзякаваць таксама
І, вядома, з даравать.
Вучыць Глеб і тату з мамай,
Як ім правільна казаць.

Шмат са словамі турбот,
Ды і тут бяды ніякай,
Бо мужчынскі маюць род
**Боль, медаль, палын, сабака.**

Як вучыцца — пэўна, трэба
Павучыцца ўсім у Глеба.

# ЗАВУЧЫ І ПАЎТАРЫ

Лічэбнік **паўтара** заўсёды,
Назоўнікам хоць і не грэбуе,
Ды хоча, каб у склоне родным
Назоўнік быў з лічэбнікам.




Пра гэта запытайце ў Янкі,
І ён вам скажа, як адмерае,
Што хлеба **паўтары буханкі**
На паўбуханкі больш, чым цэлая.




# УДВУХ, УДЗВЮХ, УДВАІХ




Над лічэбнікамі Ганна
Дзень праседзела.
Старанна
Вывучыла ўсе,
вось толькі
Цяжка ёй далася двойка.




Як бы ні было складана,
З двойкай справілася Ганна
І гатова ўсім сказаць,
Як лічэбнікі пісаць:

Дзе два хлопчыкі — **удвух**,
Дзе дзяўчынкі дзве — **удзвюх**,
Дзе яна і ён — на іх
Кажуць, што яны **ўдваіх**.




А ці так усё складана?
Вось парада вам ад Ганны:
Каб памылак не рабіць,
Гэта трэба завучыць.

# ШТО-НЕБУДЗЬ НЕ АБЫ-КАМУ

Каму-небудзь, хоць і ёсць нагода,
З абы-кім не варта сябраваць.
Словы з **«-небудзь»** і з **«абы-»** заўсёды
Неабходна праз злучок пісаць.

І, вядома, ведаць трэба ўсім:
У тры словы пішам **абы** з **кім**.

# АДНО «Н»

Нават на канікулах у летніку
Помні, што заўжды ў дзеепрыметніках
Кшталту разгайда**н**ы, сцiша**н**ы,
Пераплеце**н**ы, прывяза**н**ы,
Ў суфіксах адно н пішам мы —
І пра гэта ў вершы сказана.





# ПРЫСТАВУЧАЯ ЛІТАРА

Калі ты смяешся ў лесе,
Дык, нібыта на пацеху,
Ты не толькі сам смяешся,
А з табой смяецца рэха.

Ды зарана ўжо не цешся —
Завучыць я цвёрда раю:
Ў сшытку пішам мы — «смяешся»,
А «сьмяесься» вымаўляем.

І дарэмна мне пытанняў
Болей ты не задавай:
Калі **ш** да **с** прыстане,
Як два **с** іх вымаўляй.

# СУСЕДНЯЯ МЯККАСЦЬ



Як цвярдзець **з** і **с** ні стараюцца,
Мякка ўсё ж і яны вымаўляюцца.
Хоць у словах не пішам знак мяккі,
Ды змякчаем **з**, **с** вось, аднак, мы
Кожны раз перад мяккімі зычнымі:
Сцежка, звер, песня,
Свечка, змей, знічка.





# ЯК ВЫМАЎЛЯЦЬ?

Па сцежцы бегла Мілана,
**Ч** з **ц** вымаўляла старанна.
А тата даводзіў дачцэ:
— Калі **ч** з **ц** побач стаяць,
Дык трэба заўжды вымаўляць
**Ч** з **ц** як падвойнае **ц**.




І рэхам гучалі два **ц**
На «сцежа**цц**ы» тату й «да**цц**э».

# ДЗЕКАННЕ І ЦЕКАННЕ




Калі **д** і **т** змякчаюцца,
Дык у **дз** і **ц** ператвараюцца.
Трэба прыклады прывесці?
Са**д** — у са**дз**е, фэс**т** — на фэс**ц**е.

Так і ў словах перад **ір**:
Каман**дз**ір, пунк**ц**ір і **ц**ір.

Толькі ў іншаземных словах
Не змякчаецца аснова.
Вам запомніць гэта варта:
**Т**элеграма, **д**экаратар.






# ТОЛЬКІ ЦВЁРДА

Вымаўляць павінны мы, сябры, заўсёды
Гукі **ж**, **дж**, **ш**, **ч**, **р** у словах цвёрда:
**Ж**аба, **дж**ала, **ш**ы**ш**ка, **ч**ас, **р**акета —
Назаўжды запомніць трэба гэта.

# З «І» ЦІ БЕЗ «І»?




Калі словы на **мг**, **мк** і **мч** пачынаюцца,
То да іх наперадзе **і** прыстаўляецца
І правільна трэба пісаць:
**Імг**ненне, **імк**ненне, **імч**аць.




А пасля прыставак на гук галосны
**І** перад **м** — знікае.
Малы і дарослы
Пры пісьме не павінны ўжо ў тым памыляцца,
Што патрэбна «па**мк**нуцца» пісаць і «пры**мч**ацца».

# ЧАМУ ТАК?

Маша ў сшытку напісала —
Гэта ўсім засвоіць
Назаўсёды трэба:
Стас **і**лгаў, Алена лгала,
З хлебам **а**ржаным
І да ржанога хлеба.

А чаму, мо хто з вас скажа,
Напісала гэтак Маша?

# Дзе ставіць націск?



Трэба ведаць так,
Як двойчы два,
Што пад націскам павінны
Вымаўляць мы: крапіва́,
Навіна́,
фарту́х
і спі́на.



# Як што?

Адкажыце, хлопчык рускі
І зямляк мой беларус:
Як **арбуз** па-беларуску
І па-руску — як **гарбуз**?



# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ



Дзе — пытальнік, клічнік, кропку,
Дзе — двукроп'е і працяжнік
Расстаўляе нетаропка
Косцік, правілы згадаўшы.

У тых правілах, як звычна,
Ўсё тлумачыцца дазвання:
Радасць выказаў — стаў **клічнік**,
Запытаў пра што — **пытальнік**.

**Кропка** — там, дзе канстатуеш,
А дзе што абагульняеш,
Дык зусім не панікуеш,
А заўжды **двукроп'е** ставіш.

А яшчэ не меней важна —
Косцік гэта добра знае —
Не забыцца на **працяжнік**
Там, дзе нешта ўдакладняеш.

Пералічваеш прадметы —
Раздзяляеш словы **коскай**.

Будзеш правілы ўсе ведаць —
То й вучыцца будзе проста.






Колькі ножак у Сараканожак?
Загадкі - задачкі

*Калі вы лічыць умееце,*
*Дык ужо тады, няйначай, вы*
*Анікалькі не ўспацееце*
*І над гэтымі задачамі.*





# АЛФАВІТНЫЯ СЯБРЫ

Хто сябруе з алфавітам,
Кожны ў класе скажа.
Гэта Маша і Мікіта,
Юля, Глеб, Наташа,
А яшчэ —
Кастусь і Таня,
Наста, Света і Алесь.
Калі ўсіх лічыць мы станем —
Пералічым клас увесь.





# СКЛАСЦІ І ПАДЗЯЛІЦЬ

Пяць бананаў — у Аксаны,
Тры бананы — у Міланы...
Колькі ж будзе ў іх, калі
Скласці тыя ўсе бананы
І пароўну падзяліць?



# ДЗЯЎЧЫНКІ І КНІГІ

Прачытала Света
Дваццаць кніг за лета,
На дзве меней — Галя,
На тры больш — Марынка.

Колькі ж прачыталі
Кніг на трох дзяўчынкі?



# ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ МІКІТУ?

З матэматыкай нібыта
Сябраваць гатоў Мікіта

І рашыць задачу б мог,
Каб даведацца вось толькі,

Колькі будзе сем без трох
І без двух чатыры — колькі.








## КОЛЬКІ РАЗАМ?

Дзве градкі ў дзень палола Ната,
Аліна — тры, чатыры — Оля.
А колькі тры дзяўчынкі градак
За тыдзень разам прапалолі?

## ЦІ ДАГОНІЦЬ?

Пяць гадочкаў Глебу,
Тры з паловай — Каці.
Колькі год патрэбна,
Каб яго дагнаць ёй?



# ПАЛІЧЫ ЛІМОНЫ



У Паліны — сем лімонаў,
На тры болей — у Ілоны,
На два меней — у Альжбэты,
На чатыры больш — у Светы.

Палічы,
Каб кожны ведаў,
Колькі ўсё ж было лімонаў
У Святланы і Альжбэты,
Ну а колькі — у Ілоны.





# НАШ ДОМ

Жывуць у доме нашым
Тры Аксаны, дзве Наташы,
Дзве Алены, тры Аліны,
Каця, Лера, дзве Паліны,
Дана, Віка, Віялета,
Віталіна, Стася, Света,
Насця, Юля і Марына,
Тры Алесі і Карына,
Ганна, Воля, Люба, Ліза,
Маргарыта і Аліса,
Маша, Галя, Даша —
І зусім няма Янінак...

Колькі ў доме нашым
Усяго дзяўчынак?



# Крот і асот



У агародзе крот
Тры дні палоў асот.
Затым яшчэ два дні
Вышморгваў карані.
Пасля дзень цэлы
Крот
Чакаў,
Каб звяў асот.
Яшчэ два дні турбот,
Пакуль асот
Знёс крот
Пад плот...

Праз колькі дзён
Той агарод
Ачысціў ад асоту
Крот?

# Вожык-грыбнік



Вожык кош грыбочкаў нёс,
Па дарозе ўсе растрос:
Баравік і тры лісічкі,
Дзве ваўнянaчкі-сястрычкі,
Пяць абабкаў, сыраежку,
Падасінавік, нарэшце...
Глянуў — а грыбоў няма.
Ці ж хадзіў у лес дарма?

Ды не варта бедаваць
Па грыбочках, дружа вожык.
Мы паможам іх сабраць
І злічыць усе паможам.





# Колькі «А» ў птушак?



Жораў,
Ластаўка,
Сава.
Падлічы, каб ведаў,
Колькі ў суме літар «А»
Ёсць у птушак гэтых.

Ну, а колькі літар тых
Неўзабаве стане,
Як далучацца да іх
Шпак,
Жаўна
І каня?







# Птушкі на рабіне



Дваццаць дзве галіны на рабіне.
Колькі ж птушак на галіны селі,
Як па дзве на кожную галіну
Да рабіны ўранку падляцелі?

Праўда, дваццаць восем з іх не селі —
Да другой рабіны паляцелі.

# Машына і шыны

Чатыры шыны — у машыны,
І адна ў ёй — запасная.
А колькі шын вязе машына,
Хто з вас першы адгадае?



# Пяць + два

На ровары пяць кіламетраў
Да вёскі суседняй праехала Света.
А колькі праехала Маша,
На два кіламетры яе абагнаўшы?



# БАСАНОЖКІ НА НОЖКІ

Праз палянку тупаў вожык,
А за ім — чацвёра дзетак.
Колькі трэба басаножак,
Каб абуць малечу летам?



# ФІСТАШКІ І ЛІМОНЫ





Сем фісташак
Ёсць у Сашы,
А ў Ілоны —
Пяць лімонаў.

Аддала Ілона Сашы
Два прыгожыя лімоны,
Ну а Саша
Пяць фісташак
Аддала ўзамен
Ілоне.

Колькі ж усяго фісташак
І лімонаў
Зараз паасобку ў Сашы
І ў Ілоны?



# КАМУ КОЛЬКІ?

Сем гадкоў Сярожку.
Глеб — на год малодшы.
А як разам скласці —
Столькі будзе Насці.

# НА СЕНАЖАЦІ





Апанас каля канавы
Ў дзве рукі касіў атаву.
Падышлі Цімох і дог —
Колькі стала рук на трох?

# СЕМ ШАКАЛАДАК

Сёння Зміцер вельмі рады:
У яго — сем шакаладак.
Ды ніяк не можа Зміцер
Ўсім пароўну падзяліць іх.

Для бабулі і для дзеда,
Для сябе, матулі, таты
Дзеліць ён аж да абеду
Сем маленькіх шакаладак.




Як тут быць
І што рабіць,
Каб на пяць
Сем падзяліць?






# ЗАДАЧКА АД ЧАРАПАХ



На чатыры чарапахі
Ёсць чатыры апранахі.
Ну а колькі апранах
Маюць дзесяць чарапах?
Бо як выйдуць — ух! —
Ў дзень зімовы на мароз,
Адну з кожных дзвюх
Працінае аж да слёз.

# КОЛЬКІ НОЖАК У САРАКАНОЖАК?



На сцяжынцы ўбачыў вожык
Сорак пяць сараканожак.

Тыдні два ў сараканожак
Ножкі ўсё падлічваў вожык.

Спераду лічыў і ззаду,
Толькі — праўда ці няпраўда, —

Ды злічыць не здолеў вожык
Ножкі ўсе ў сараканожак.

Ці то з вас яму хто, можа,
Падлічыць іх дапаможа?





# Птушыная задачка





Вецер гушкаў
У голлі птушак.
На яліне
На зялёнай —
Дзве сарокі,
Тры вароны,
А на дубе
На высокім —
Дзве вароны,
Тры сарокі.



Той,
Хто вывучыў
Урок,
Не змакрэе
Дужа ён
Над адказам:
Колькі ўсіх было
Сарок,
Колькі ўсіх было
Варон,
Колькі тых
І іншых
Разам?





# КЛЁН

*(Паводле Васіля Віткі)*



Хоць сам па сабе клён адзін,
На клёне — дванаццаць галін.
На кожнай галіне, дарэчы, —
Ажно па чатыры гняздзечкі,
А ў кожным гняздзе акурат
Сядзіць аж па сем птушанят.
На кожнае ж там птушанятка
Ёсць дваццаць чатыры зярняткі.

Як хочаш — лічы птушанятак,
А не — будзь бліжэй да зярнятак.

Спяшацца з адказам не раю,
Ды ведаць усё ж ты павінны,
Як клён той спрадвек называюць
І як называюць галіны,
І далей, калі па парадку,
Як зваць птушанят і зярняткі.

Ну што, здагадаўся, чытач?
А зараз і нам патлумач.

# Колькі дрэў?



Зачасаўшы ўгору чуб,
Раскашуе ў лесе дуб.
На яго глядзяць зайздросна
Тры асіны, дзве бярозкі,
Пяць алешын, сосен пяць...

Колькі ж дрэў
На дуб глядзяць?



# КАШТАНЫ ДЛЯ УЛЬЯНЫ

З мамай Ульяна па парку гуляла.
З мамай Ульяна каштаны збірала.
Мама ў траве знайшла восем каштанаў,
А на шэсць меней — дачушка Ульяна.
Села на лаўку і лічыць Ульяна,
Колькі ў іх з мамаю разам каштанаў.

# ЗАДАЧКА-ЖАРТ

Загадаў задачку Стас
Брацiку свайму Дзянiску:
— Што хаваецца штораз
Памiж Гомелем i Мiнскам?







# АДКАЗЫ НА ЗАДАЧКІ

Алфавітныя сябры: 10.

Скласці і падзяліць: па 4.

Дзяўчынкі і кнігі: 61.

Што перашкаджае Мікіту: 4 і 2.

Колькі разам: 63.

Ці дагоніць: ніколі.

Палічы лімоны: 11, 5, 10.

Наш дом: 36.

Крот і асот: 8.

Вожык-грыбнік: 13.

Колькі «А» ў птушак: 6 і 10.

Птушкі на рабіне: 16.

Машына і шыны: 1.

Пяць+два: 5.

Басаножкі на ножкі: 16.

Фісташкі і лімоны: у Сашы — 2 фісташкі, 2 лімоны;
у Ілоны — 5 фісташак, 3 лімоны.

Каму колькі: 13.

На сенажаці: 4.

Сем шакаладак: 1,4 = $1\,^{2}/_{5}$.

Задачка ад чарапах: 5.

Колькі ножак у сараканожак: 1800.

Птушыная задачка: 5, 5 і 10.

Клён: клён — год, галіны — месяцы,
гнёзды — тыдні, птушаняты — дні, зярняты — гадзіны.

Колькі дрэў: 15.

Каштаны для Ульяны: 10

Задачка-жарт: літара І.





# ЗМЕСТ



Літаратурна-мастацкае выданне

Сучасныя пісьменнікі — дзецям

**Зэкаў** Анатоль Мікалаевіч

# ЛІЧБА З ЛІТАРАЙ СЯБРУЮЦЬ

Рэдактар В.В. Давідовіч

Мастацкае афармленне
і камп'ютарная вёрстка: П.В. Баранаў

Падпісана да друку 24.11.2016.
Фармат 84×108 1/16. Папера мелаваная.
Друк афсетны. Гарнітура SchoolBook.
Ум. друк. арк. 5,04. Ул.-выд. арк. 2,89.
Тыраж 1000 экз. Заказ 2843.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/1 ад 08.07.2013.
Зав. Калініна, 16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/102 ад 01.04.2014.
Пр-т Незалежнасці, 79, 220013, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.